

№ 15 (176)

Красавік 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:



18 красавіка – Міжнародны дзень помнікаў і гістарычных мясцінаў







# Вяртанне да нашчадкаў

***Можна толькі пазайздросціць энергічнасці вучоных акадэмічнага Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, якія не толькі ўпершыню ў гісторыі Беларусі правялі навуковую канферэнцыю, прысвечаную 175-годдзю Вінцэся Каратынскага (у Варшаве адзначалі 150-годдзе), але надзвычай аператыўна выдалі зборнік дакладаў і паведамленняў гэтага форуму.***



Выхад у свет зборніка «"Вінцэсь Каратынскі ў беларуска-славянскім літаратурным узаемадзеянні". Матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі (Мінск, 29 верасня 2006 г.)» – падзея ў навуковым і культурным жыцці краіны, якую цяжка пераацаніць, гэта яшчэ адно сведчанне пашырэння інфармацыйнай прасторы нацыянальнага літаратуразнаўства, увядзенне ў навуковы кантэкст новых імёнаў, дакументаў і матэрыялаў. У параўнанні з некаторымі сучаснымі літаратарамі, творчая спадчына В. Каратынскага, асабліва беларускамоўная, адносна невялікая. Але ў каторы раз пацвярджаецца ісціна: важныя не колькасць, а якасць, не аморфнасць, а актыўная грамадзянская пазіцыя; можа таму – успляск цікавасці сучасных даследчыкаў да асобы В. Каратынскага і яго творчасці. Сярод аўтараў зборніка як вучоныя вядомыя, з бездакорнай навуковай рэпутацыяй (Г. Кісялёў, Ю. Лабынцаў, У. Мархель), так і таленавітая моладзь (А. Бразгуноў, А. Вальчук, А. Данільчык, І. Запрудскі і інш.), якія пановаму асэнсавалі і інтэрпрэтавалі зробленае выдатным сынам беларускай зямлі, што стаяў ля вытокаў нацыянальнага адраджэння.

(Заканчэнне на стар. 7)

*Я не ведаю іншага спосабу меркаваць пра будучыню, апроч як па мінулым*

*П. Генры*

# Мы — беларусы

***Бясспрэчна, прырода надзяліла Янку Купалу незвычайным талентам. Гэта быў прыродны талент – талент ад Бога. Пераважную большасць сваіх твораў, вершаў-песняў ён стварыў не ў пісьмовых кабінетах, навот не ў вясковай хаце: «Як я ў хатку ўвайду, мяне мысль ні гняце...», а ў дарозе, у хадзе.***

Ягоныя вершы-песні выплывалі з душы нязмушана, як вада з крынічкі. Да прыкладу, ён полем ідзе:

*Як я полем іду,*
*гнецца колас ка мне,*
*З ім маркотнай душой*
*ціха шэпты вяду,*
*Колас чуе ўсё*
*ў зачараваным сне, –*
*Колас гнецца ка мне,*
*як я полем іду.*
*А от што адчувае песняр,*
*як ён лугам ідзе:*
*Як я лугам іду,*
*трайка сцелецца ў ног.*
*Абсыпае з сябе*
*жыўчых росак ваду;*
*Кветкі жаляцца мне –*
*поўных дзіўных знямог, –*
*Трайка сцелецца ў ног,*
*як я лугам іду.*

І гэтак было заўсёды, усюды і скрозь. Купала ведаў і цаніў слова. Яно да яго само ішло-плыло, спалучалася ў такія дзівосныя спавівы між сабою, што неўпрыкмет рабілася крылатым, афарыстычным, меладыйным. Сёння між намі вельмі гаваркое прывітанне-вокліч «Жыве Беларусь!». Але далёка не ўсе на Беларусі ведаюць, што яно прыйшло да нас са славутага Купалавага верша «Гэта крык, што жыве Беларусь», які вырваўся з песняровай душы дзесь яшчэ на пачатку ягонага творчага шляху. Згаданыя Купалавы словы былі напамінкам свету, што на зямлі ёсць такая краіна і яна жыве. Але хтосьці з удумлівых Купалавых чытачоў адчуў, што гэтыя словы могуць быць вітаннем – напамінкам і між суайчыннікамі. З тае пары мы і вітаем адзін аднаго гэтым парывістым воклічам, выказваючы сваю аддансць роднаму краю – Бацькаўшчыне-Беларусі. Не гэтак даўно я перачытваў Купалаў публіцыстычны артыкул «Справа беларускага нацыянальнага гімна». У ім ёсць такія радкі: «Мы, беларусы, дзякуючы ўсялякім гістарычным і палітычным безгалоўям нашай Бацькаўшчыны вечна цягнуліся ў хвасце сваіх суседзяў ды і яшчэ цяпер не можам у шмат якіх справах раўняцца з імі...»

Калі я прачытаў першыя словы гэтае Купалавае развагі, згадалася: з тых жа слоў «Мы, беларусы...» пачынаўся беларускі гімн савецкай пары на словы Міхася Клімковіча. Не сумняваюся, менавіта гэтыя Купалавы словы сталіся штуршком, творчым спасылам, пачаткам напісання верша «Мы – беларусы». Міхась Клімковіч, уяўляецца, як і кожны творца, узяўшыся за напісанне твора на гімн, мусіў паглядзець, пачытаць, што ж наша літаратура мае з гэтай нагоды. І от натрапіў на вельмі сур'ёзны Купалаў артыкул-развагу. Калі прачытаў гэтае Купала «Мы, беларусы...», ухапіўся за гэтыя словы і ўжо далей разгарнуў свой твор у адпаведным тагачасным ідэалагічным кірунку. Але штуршком, спасылкай да напісання верша «Мы – беларусы» на гімн з'явіўся Янка Купала са сваім артыкулам «Справа беларускага нацыянальнага гімна» – такі магутны геній беларускай думкі Янка Купала. Невыпадкова ж ён сам пра сябе казаў: «Цяпер я беларускай песні ўладар!» Між іншым, акцэнт «Мы – беларусы» быў калісь у Янкі Купалы вельмі хадавы, з яго пачынаецца і Купалаў артыкул «Больш самачыннасці». І гэта натуральна. Кажучы запаветныя думкі ад імя народа, Янка Купала не мог інакш казаць, як казаў: «Мы – беларусы». І мы ўслед за Прарокам кажам: «Мы – беларусы». Не тутэйшыя, як гэта зусім нядаўна практыкавалася ў краі, а беларусы.

*Уладзімір СОДАЛЬ*





# Як ты сустрэў Уваскрослага Хрыста?

***Зараз, калі ўжо, здаецца, за спіной часы ваяўнічага атэізму і на Беларусі пачынае адраджацца духоўнасць і вера ў Бога, калі адчыненыя дзверы цэркваў і касцёлаў і кожны ахвочы можа ў іх уваходзіць, усё большае месца ў жыцці народа займаюць хрысціянскія святы. І, канечне, нельга абмінуць самага вялікага з іх – Уваскрасення Хрыста. У нас многія яго святкуюць, але шляхі сустрэчы свята розныя. Хто ў царкве, малітве ці ў коле блізкіх і родных за святочным сталом. Для адных Вялікдзень нельга ўявіць без самога Бога, а для другіх, наадварот, Хрыстос толькі фармальнасць, наяўнасць Ягоная зусім неабавязковая.***

***Па-рознаму свята адзначае і моладзь. Таму зараз хачу прывесці прыклады сустрэчы з Уваскрослым Збаўцам моладзі з вёскі Параф'янава, што на Докшыччыне. Мае суразмоўцы – вучаніцы 11 класа мясцовай школы і адна дзевяцікласніца.***

**Таня Страха:**

– Вялікдзень – самае галоўнае свята ў праваслаўнай і каталіцкай царкве, то да гэтай вялікай падзеі кожны вернік павінен быў падрыхтавацца: перажыць пост, на працягу якога шмат маляцца і стрымліваюцца ад сытнай ежы. Пасля посту, у святочны дзень, прабываючы ў гармоніі з душой, мы ідзем у храм, дзе з нецярпеннем чакаем вялікай падзеі – Уваскрасення Збавіцеля, які дорыць святло, надзею на будучае. Святло, якое адыходзіць ад Хрыста, – гэта святло, што запальваецца ў сэрцы кожнага.

Асабіста я сустрэла гэта Святло з трывогай, пяшчотай, цеплынёй.

**Аня Азарэвіч:**

– Не зусім так, як бы таго хацелася. Проста некуды падзелася дзіцячая беспотнасць, радасць, з'явіўся дарослы недавер, неспакой. Але хоць на некалькі хвілін уліліся такі супакой і такая радасць, што могуць быць толькі ад сустрэчы з сапраўднай Любоўю.

**Ірына Габруковіч:**

– З радасцю ў сэрцы. Ад шчасця нават заплакала. Не ведаю, што са мною адбывалася. Хрыстос увайшоў у маё сэрца – і я адчула новыя сілы. Адчула, што я патрэбна Яму, што Ён ніколі ад мяне не адыдзе. Я быццам размаўляла са Збавіцелем і чула Яго голас. Адчула тую любоў і ласку, якой ён адарыў мяне. Я прасіла прабачэння і ведаю: Ён прабачыў. Хрыстос – мая надзея, мая радасць, я давяраю Яму. Хачу аддаць Яму сваё жыццё. Ён усё зразумее. Я вельмі шчаслівая.

**Даша Грыгаровіч, 9 клас:**

– На маю думку, сапраўднае свята немагчыма ўявіць без службы ў храме.

...Першыя хвіліны гэтага светлага дня я сустрэла менавіта ў царкве, калі над зямлёю апусцілася цемра ночы, а ў храме ўспыхнулі цёплыя агеньчыкі свечак. Гэтую чысціню, святло адчуваю яшчэ і сёння.

**Оля Адамовіч:**

– Калі Ён прыходзіць, то не грымяць фанфары і салюты. Гэта лагодны і мяккі стук у сэрца з прапановай адкрыць і даверыць яму супакой і чысціню сваёй душы. Для мяне сустрэча з Уваскрослым адбылася ў чуванні. Не ведаю, наколькі я адкрыла сваё сэрца, аднак адчуванне Хрыстовай прысутнасці было і ёсць.

***Дзякую дзяўчатам, што пажадалі падзяліцца ўражаннямі сваёй сустрэчы з Уваскрослым Збаўцам, што далі нам, чытачам, часцінку атрыманай радасці і святла. Таксама дзякую тым, хто заўсёды імкнецца захаваць, перадаць праўду і чысціню Вялікадня сваім родным і сябрам, увогуле ўсяму свету, бо вельмі важна правільна разумець тое, чаму ў цудоўныя веснавыя дні свет незвычайна зззяе. І ты разам з ім адчуваеш сапраўдную перамогу жыцця над смерцю.***

*Праводзіла апытанне*
*Аксана ЮЧКАВІЧ,*
*в. Параф'янава*
*Докшыцкага раёна*

# ...і мост праз Прыпяць



*Гідравузел, які знаходзіцца ў Пінскім раёне на рацэ Прыпяць, служыць не толькі, напрыклад, для рэгулявання патоку вады. Палешукі, жыхары вёсак Качановічы і Плошчава, што знаходзяцца побач, на супрацьлеглых берагах, выкарыстоўваюць яго ў якасці моста. Так, жыхары Качановіч, могуць хутка дабрацца да Плошчава, куды часцей, чым да іх у вёску, з Пінска прыходзіць аўтобус (тры разы на тыдзень). Па гідравузлу можна трапіць і на шлюз, да якога некалькі разоў на месяц са сталіцы Палесся, пакуль на рацэ няма лёду, прыходзіць цеплаход.*

**Тэкст і фота Ігара ГРЭЧКІ**



# Скрыгалаў – старажытны град

***Дасылаю свае запісы гісторыі аднаго з мястэчак Мазыршчыны, якое, як сведчаць дакументы, у мінулым было горадам. Гэта – Скрыгалаў. Аб ім сельская бібліятэка мае папкі «Гісторыя вёскі Скрыгалаў» і «Летапіс вёскі Скрыгалаў», а з гэтага года і ў чытальнай зале Мазырскай раённай бібліятэкі ёсць папка «Гістарычныя помнікі Мазыршчыны», у якой захоўваецца матэрыял таксама па гістарычных помніках Скрыгалава.***

Недалёка ад Мазыра, за вёрст дваццаць, на трактах тураўскім і давыд-гарадоцкім, на рацэ Прыпяці, знаходзіцца старажытнае мястэчка Скрыгалаў. Найбольш верагодна, што назва вёскі пайшла ад прозвішча літоўскага князя Скрыгайлы, якому вялікі князь Ягайла ў 1387 годзе ўступіў свае права на валоданне большай часткай тэрыторыі Палесся.

Скрыгалаў адносіцца да найбольш старажытных паселішчаў Мазыршчыны.

Ёсць тут па суседстве гарадзішча – рэшткі скрыгалаўскай крэпасці. Жыхары і сёння завуць яго Гарадком. Гарадзішча – нішто іншае, як вялізная плошча пасярод густога лесу, якая займае некалькі дзесяцін. Яна агароджана высокімі землянымі валамі і глыбокім ровам з вадой.

У непраходным лесе гарадзішча амаль непрыкметна для таго, хто праязджае па вялікай тураўскай дарозе. Яно зарасло векавымі дубамі, якія яшчэ больш дадаюць яму таямнічасці. Са слоў старажылаў, некалькі гадоў таму нейкі археолаг, калі пракапаў адзін з вуглоў гарадзішча, знайшоў цэлую лесвіцу з мармуру, з-пад якой прасочвалася вада.

Існуе некалькі ўспамінаў у гістарычных дакументах пра вёску Скрыгалаў (1240, 1387, 1435 гадоў).

Маўклівыя сведкі старажытнасці навакольнай мясцовасці – курганы, гарадзішча, руіны ўмацаванняў, валы і рвы сведчаць аб тым, што паселішча значна старэйшае за вышэйзгаданыя даты.

Паводле звестак у дакументах, тут быў манастыр, умацаваны каменнымі сценамі, але калі і кім ён быў пабудаваны, пакуль гістарычных сведчанняў няма, альбо яны не знойдзены. Верагодна, Скрыгалаў знаходзіўся на скрыжаванні ажыўленага гандлёвага і ваеннага шляхоў на Пінск, Слуцк, Мінск, Мазыр, Оўруч, Тураў і ў X–XIII стагоддзях не раз быў тэатрам важных падзей.

Паводле сведчання Нарбута Стрыйкоўскага, сын літоўскага князя Мантвіла Ердвіла ў 1240 годзе са сваёй дружынаю атрымаў перамогу тут над манголамі, і Кайдан – мангольскі ваявода ўратоўваўся ўцёкамі. У маі 1497 года наваколле Мазыра і Скрыгалава разбурылі крымскія татары. А каля Скрыгалава, на ўзбярэжжы Прыпяці, быў забіты мітрапаліт кіеўскі Макарый, які крочыў з Вільні ў Кіеў. Пасля гэтых гістарычных падзей у Скрыгалаве была пабудавана капліца ў гонар Макарыя.

Скрыгалаў з XV стагоддзя ўваходзіў у склад Вялікага княства Літоўскага. У Літоўскай метрыцы за 1552 год пералічаны прозвішчы 31 жыхара вёскі, якія плацілі даніну князю. У Скрыгалаве налічвалася 14 дымаў (двароў), 15 служб. У вёсцы дзейнічаў з 1799 года храм у гонар святога Мікалая, святаром у якім быў Парфэн Рамановіч. У 1877 годзе царква згарэла.

На працягу стагоддзяў Скрыгалаў з'яўляўся ўласнасцю Кмітаў, Слушкоў, Дэнгофаў, Чартарыйскіх. У XVIII стагоддзі ім валодалі багацейшыя роды Аскеркаў і Радзівілаў. З сярэдзіны XVIII стагоддзя Скрыгалаў па афіцыйным статусе – мястэчка, населены пункт, з некаторымі адзнакамі горада. Большасць яго жыхароў складалі бедныя рамеснікі, дробныя гандляры, сяляне. Значная колькасць – яўрэі.



*Рэшткі капліцы ў памяць Макарыя*

У Скрыгалаве збіраліся кірмашы два разы на год – 9 мая і 6 снежня, на правядзенне якіх кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў 1782 годзе даў спецыяльную грамату. У гэтыя дні ў Скрыгалаў з'язджаліся гандляры і купцы са шматлікіх гарадоў Рэчы Паспалітай і Расіі. Праз вёску Скрыгалаў праходзіў тракт з Мазыра ў Давыд-Гарадок. Мелася паштовая станцыя. Па другім падзеле Рэчы Паспалітай у 1793 годзе Скрыгалаў увайшоў у склад Расіі. У 1812 годзе ў Скрыгалаве, як і ў Мазыры, размяшчаліся часці рэзервовага корпуса рускай арміі. У 1847 годзе лічылася 109 двароў ва ўладанні графа Тышкевіча. Ужо дзейнічалі пристань і пераправа на р. Прыпяць. У 1858 годзе ўзведзены школьны будынак і адкрыта школа, з 1863 года ў мястэчку было адкрыта земскае народнае вучылішча.

Скрыгалаў быў цэнтрам воласці (да 17.07.1924 года), у якую ў 1885 годзе ўваходзіла 26 сёл з 681 дваром. З 1880 года тут працавала паштова-тэлеграфная кантора, з 1910 года – лесапільня.

З 20.08.1924 года вёска, цэнтр Скрыгалаўскага сельсавета. З 20.02.1938 года знаходзіцца ў Палескай вобласці, з 08.01.1954 года ў Мазырскім раёне Гомельскай вобласці. Цяпер цэнтр сельскага Савета.

Але колькі яшчэ пытанняў па гісторыі гэтага мястэчка?!

*Ганна БУЛАШ,*
*бібліятэкар*
*Мазырскай РЦБС*

***У Гарадку (райцэнтр Віцебскай вобласці) не захаваліся архітэктурныя помнікі: вельмі багата ліхалеццяў пранеслася над краем.***

***Але ў 1979 і 1981 гадах В.І. Шадыра вёў раскопкі, якія дапамаглі вызначыць месца старажытнага гарадзішча. На паўднёвай ускраіне захаваліся рэшткі вала вышынёй 1,2 – 1,5, даўжынёй 16 м. Культурны пласт 0,5 – 2 м. У гэтым пласце знойдзена кераміка днепра-дзвінскай культуры, фрагменты ганчарнага посуду, гліняныя пралкі, жалезныя сярпы, нажы, шылы, шпоры, бранзалеты, якія датуюцца I–XIII стагоддзямі. Лічыцца, што Гарадок – стаянка днепра-дзяснінскай культуры.***



# Пра мінулае нашага Гарадка

Захаваліся рэшткі русла ракі Нешчарды, якая ўпадала ў раку Гаражанку і акружала Гарадок з паўднёвага ўсходу. Рака абмялела і ператварылася ў забалочаны ўчастак. Рэшткі русла праходзяць па ярах, які перасякае вуліцу Вакзальную. На правым, балоцістым беразе Гаражанкі, захаваліся рэшткі «гарадка», якія маюць выгляд умацавання. На абрыве левага берага (падчас даследавання) заўважны былі сляды каменнага фундамента. Навукоўцы мяркуюць, што ад гэтага «гарадка» горад наш і атрымаў назву. Мае права на існаванне і іншая версія: Гарадок, бо размешчаны на гары.

На паўднёва-заходняй ускраіне горада, на першай і часткова другой надпойменных тэрасах правага берага ракі Гаражанкі, у 1934 годзе вёў даследаванні А.Д. Каваленя, у 1986–1989 гадах – археолаг В. Ляўко. Імі было раскапана 560 м². На глыбіні 0,4–1 м выяўлены сляды жылля VI–VIII стагоддзяў. Культурны пласт змяшчае часцей за ўсё таўстасценную ляпную кераміку з расчосамі, зашчыпамі, касымі насечкамі па краі вянца гаршчка (часта знойдзены посуд меў плечыкі). Тады ж знойдзены спіралепадобныя каралі са светла-зялёнага шкла II–III стагоддзяў.

Вучні нашай школы прымалі актыўны ўдзел у раскопках, а потым з зацікаўленасцю расказвалі пра свае знаходкі, тым самым апраўдваючы пропускі ўрокаў. Цікава, што ніжні пласт раскопа быў перакрыты цёмна-карычневым пластам VI–IX стагоддзяў, у якім знойдзена ўжо гладкасценная кераміка, наканечнік дзіды і інш. У верхніх пластах кераміка X–XII стагоддзяў: шкляныя каралі, бранзалеты, жалезныя нажы – рэчы эпохі Кіеўскай Русі, а таксама прадметы XVII–XVIII стагоддзяў: люлькі, гліняныя цацкі, посуд (вядома, у чарапках). На думку В. Ляўко, кераміка ніжняга пласту пасялення таксама падобна да матэрыялаў эпохі Кіеўскай Русі.

З цягам часу з'явіцца неабходнасць ахоўваць горад. З гэтай мэтай у 1-й палове XVII стагоддзя на надводнай тэрасе правага берага ракі Гаражанкі быў узведзены Гарадоцкі бастыённы замак. Бастыён адкрылі і абследавалі параўнальна нядаўна, у 1981 годзе, археолагі М.А. Ткачоў, А.А. Мяцельскі, Г.М. Семянчук. Ён мае форму пяцівугольніка, які павернуты выступаючым усходнім бокам да поля. З поўначы, усходу, і часткова захаду захаваўся роў глыбінёю да 3,3 м, шырынёю – 16 м. Такімі, відаць, і былі памеры зямлянога вала, якія цяпер нівеліраваныя. З паўночнага і паўднёвага боку захаваліся сляды бастыёнаў – яны некалі размяшчаліся праз кожныя 20 м. Паўночна-заходні ўчастак замчышча прыкрываўся балотам, адкуль выцякаў і ўпадаў у абарончы роў ручай. Пляцоўка замчышча мае значны схіл на поўдзень, разворваецца культурны слой да 0,4 м. Тут знойдзена значная колькасць абломкаў посуду XVII–XVIII стагоддзяў, цвікі, нажы, кольцы і інш.



Упершыню Гарадок упамінаецца ў дакументах у 1650 годзе. У 1777 годзе яму быў нададзены статус павятовага горада. А ў 1778 і 1846 гадах адбылося зацвярджэнне яго плана. Тады Гарадку належала 1 830 дзесяцін зямлі, у тым ліку ў межах горада да 214 дзесяцін. Дамоў на той момант было 835, цэркваў каменных – 2, адна капліца і адна сінагога.



Курганны могільнік у в. Альхавец

У горада быў свой герб, але выява яго мянялася. Цяпер узяты за аснову герб XVI стагоддзя: на фігурнай пласціне жоўтага колеру выява ільва.

У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь знойдзена кароткае статыстычнае апісанне Гарадка за 1839 год. Прывяду некаторыя дадзеныя з яго.



Станцыйны дом у в. Кузьмін

Адлегласць ад Пецярбурга – 652 вярсты, ад Масквы – 588, ад губернскага горада Віцебска – 36 вёрст. У Гарадку на той момант было вуліц – 13, адзін мост, вуліцы не асвятляліся. Гарбарных заводаў – 4, крамаў – 60, пастаялых двароў – 4, піцейных устаноў – 10, адна лазня, калодзежаў – 15, цэркваў – 2, яўрэйскіх малітоўных школ – 5, дамоў каменных і драўляных – 8 647. У горадзе пражывала – 1 058 мужчын, 1 038 жанчын. Гадавы даход горада – 2 561 рубель. Галоўны даход складалі падаткі з піцейных дамоў, падаткі з насельніцтва, працэнты ад купцоў. Расходы ішлі на ўтрыманне паліцыі, думы і магістрата. Гандаль вёўся хлебам, рознымі дробнымі таварамі, соллю. Асноўная частка насельніцтва займалася дробным рамяством.

У X–XIII стагоддзях на землях Віцебскай губерні існавала Полацкае княства, а значыць, і наш горад быў пад яго ўладай.

З XIV стагоддзя ў складзе Вялікага княства Літоўскага. У 1772 годзе адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай. Вынікам яго стала далучэнне да Расіі ўсходняй часткі Беларусі, дзе знаходзіліся і гарадоцкія землі, на якія цяпер распаўсюджваліся расійскія законы. Некалькі разоў мянялася адміністрацыйна-тэрытарыяльная прыналежнасць Гарадоцкага краю.

1895 год. У горадзе з'явіліся каменныя пабудовы: двухпавярховы будынак турмы і двухпавярховы будынак «присутственных мест». Мелася конная паштовая станцыя. У 1895 годзе на пошту паступіла 1 004 тэлеграмы і было адпраўлена 1 338.

Пачала развівацца прамысловасць горада. Дзейнічаў мылаварны завод. На ім працаваў усяго толькі адзін чалавек. Гарбарных заводаў было пяць. Рабочых – 14. На мукамольным заводзе працавалі 4 чалавекі, на цагельні – 8. Дзейнічалі тры прадпрыемствы па выпуску газіраваных напояў, дзе працавала 7 рабочых. Была фарбавальня з 2 рабочымі. Развіваўся саматужны промысел.



Крыжы ў в. Дуброўка

Да ліку рамеснікаў адносіліся пекары, краўцы, шаўцы, слесары, кавалі, адзін цырульнік. Усяго ў прамысловасці і саматужных промыслах у павеце было занята 248 чалавек. Даход Гарадка складаў 7 590 руб. 27 кап., расходы – 7 525 руб. 27 кап.

Расходы накіроўваліся на: утрыманне гарадскога грамадскага ўпраўлення – 1 800 руб.; утрыманне навучальных устаноў – 175 руб.; дапамогу казне – 344 руб. 16 кап.; воінскі пастой – 576 руб.; ацяпленне і асвятленне турмы – 382 руб.; утрыманне гарадскога ўрача і іншых медработнікаў – 112 руб. 04 кап.; утрыманне чыноў гарадской паліцыі – 1 248 руб.; утрыманне пажарнай каманды – 192 руб.; утрыманне маставых – 175 руб.; асвятленне горада – 154 руб.

У горадзе была пажарная каманда з двух чалавек і вольна-пажарнае таварыства – 34 чалавекі. Мелася трое коней. Усё ўтрыманне пажарнай каманды абыходзілася ў 218 руб.

У 1895 годзе ў склад Гарадоцкага павета ўваходзіла 21 воласць. У павеце было 19 школ, з іх у Гарадку 2 царкоўна-прыходскія. Утрыманне школ, заробак настаўнікам, утрыманне навучэнцаў і дапамога ім школьнымі прыналежнасцямі адбываліся за кошт мірскіх неабавязковых збораў (ахвяраванняў. – Рэд.). Абавязковыя ж зборы ішлі на ўтрыманне паліцэйскіх дзесятнікаў і памяшканняў для арыштантаў.

У Гарадоцкім павеце яшчэ не было бібліятэк у 1895 годзе, не было і кніжных магазінаў. Захаваліся звесткі, што ў 1855 годзе ў Гарадок выпісвалася 136 экземпляраў газет і часопісаў. Пераважная большасць падпіскі прыходзілася на такія выданні, як «Церковные ведомости», «Сельский вестник», «Свет» і інш. Выпісвалі іх папы, памешчыкі і аканомы.

***Аліна БАСТАВА,***
***г. Гарадок***

***Здаўна славяне рабілі на паўнаводных рэках гаці і будавалі млыны. Узнікненне Мінска легенда звязвае з з'яўленнем на берагах Свіслачы, у гады сівой даўніны, вялізнага млына. У зборніку А.І. Гурскага «Легенды, паданні, сказы» знаходзім легенду аб заснаванні горада Мінска. Паміж Татарскім канцом і Пераспінскім мастком, каля самага Віленскага паштовага шляху, некалі жыў магутны асілак-знахар па мянушцы Менеск. Ён пабудаваў на Свіслачы вялізны каменны млын на сем колаў.***

# Млыны

## Беларусі не патрэбныя?!.

Менеск і яго дружына пасяліліся каля млына. Тут і быў заснаваны горад і названы ў гонар легендарнага волата. Так гэта было ці інача, невядома. Але легенда аб магутным абаронцы беларускай зямлі і яго млыне жыве і сёння. З 1-й чвэрці XIV стагоддзя Мінск увайшоў у склад Вялікага княства Літоўскага. У Даравальнай грамаце вялікага князя Аляксандра гораду Мінску на магдэбургскае права ў 1499 годзе агаворваліся дазволы на будаўніцтва розных грамадскіх пабудоў, у тым ліку і млыноў.

Некалькі слоў скажам і аб саміх млынах. Звесткі аб канструкцыях механізмаў знаходзім у працах С.А. Сергачова і А.І. Лакоткі аб традыцыйным беларускім народным дойлідстве. Колькі вадзяных млыноў існавала на Беларусі, сказаць цяжка.

На шырокіх рэках, такіх як Прыпяць, Дняпро, Нёман, ставіліся наплаўныя млыны. Іх узводзілі на спецыяльных плытах, баржах, якія стаялі на якарах. Упоперак іх клалі гарызантальную вось, на канцы якой мацавалі 6 альбо 8 доўгіх лопасцяў. На зімовы час такія млыны адводзілі ў ціхую затоку альбо старык. На рэках з крутымі берагамі ставіліся млыны з гацямі і падачай вады на кола зверху (верхні бой). На шырокіх рэках, каля нізкіх берагоў, наадварот, будаваліся млыны з ніжнім боем і колам, якое размяшчалася адносна вады не вертыкальна, а гарызантальна. У такім выпадку вадзяны млын стаяў убаку. Вада падводзілася да кола па драўляным латаку. Найбольш адказны элемент вадзянога млына – кола, якое дасягала ў дыяметры 4 метры. Да магутнага гарызантальнага вала (восі) спіцамі мацаваліся два драўляныя вобады, адлегласць паміж якімі каля 50 см. Унутры іх абшывалі дошкамі, а звонку паміж вобадамі ўстаўлялі перагародкі (лапаткі). Атрымліваліся своеасаблівыя каўшы, размешчаныя адзін за адным уздоўж кола, а разам з ім і гарызантальны вал.

Буйныя млыны мелі некалькі колаў, нярэдка яны прыводзілі ў рух не толькі жорны, але і выконвалі функцыі вырабу сукна (валюшні і фалюшы), салетры і пораху (парахаўні), грубай паперы (паперні), здабычы балотнай руды (рудні), распілоўкі бярвёнаў на дошкі і брусы (тартакі). Так, у канцы XIX стагоддзя на рацэ Лужаснянка ў вёсцы Лужасна Віцебскага павета ў памешчыцы Краснадземскай працаваў млын на 8 паставаў. Побач, у вёсцы Мазалава, млын меў 10 паставаў. Унутры млына да вала мацавалі кола, якое спецыяльнымі зубамі злучалася з гарызантальнай шасцярнёй. Для млыновых механізмаў характэрны: старанны разлік усіх элементаў, логіка канструктарскіх вырашэнняў, высокая якасць работ.

Будавалі млыны мясцовыя майстры без «тэхнічнай дакументацыі», улічваючы вопыт ужо пабудаваных аб'ектаў. Па сведчанні Васіля Пяскова, вялікага энтузіяста адраджэння вадзяных млыноў на рэках Расіі як часцінак гістарычных ландшафтаў, прафесіянальныя будаўнікі з вялікім вопытам пастаянна сутыкаліся з цяжкасцямі падчас рэканструкцый. Асобныя вузлы і механізмы ведомы, але падагнаць іх і запусціць млын доўга не атрымлівалася. Страчаны вопыт. У даўніну, каб пазбегнуць самаадвольнага ўзгарання, якое ўзнікае ад трэння драўляных частак млыновага механізма, млынары іх змазвалі свіным салам. Кавалкі сала віселі ў млыне паўсюль.

Вось мы і падыйшлі да самага сэрца млына – жорнаў. Вертыкальная вось ад шасцярні праходзіла праз адтуліну ў цэнтры ніжняга каменя (ляжак) і наглуха мацавалася да верхняга (бягун). Ніжні камень заставаўся нерухомым, а круціўся толькі верхні. Жорны адгароджваліся кажухом. Жорнавыя камяні павінны былі быць асаблівай якасці. Ад іх патрабавалася трываласць, вязкасць і порыстасць. Часта жорны прывозіліся здалёк. Майстры-каменячосы некаторых мясцовасцей спецыялізаваліся на вырабе жорнаў. У Аршанскім і Сенненскім паветах Магілёўскай губерні, багатых на дзікі камень, сяляне займаліся вырабам млынавых жорнаў. Але паступова гэты промысел забываўся, бо колькасць прыдатнага матэрыялу змяншалася. Здаўна славіліся на беларускіх землях жорны з вёскі Глушкавічы, што ў Лельчыцкім раёне Гомельскай вобласці.

Прадукцыйнасць млына залежала ад памеру каменя і хуткасці кручэння. Жорны бралі дыяметрам ад 50 да 120 сантыметраў. На маластводных рэчках ставіўся вялікі бягун, і круціўся ён у межах 60 абаротаў за хвіліну. Так, пастаў мог размолваць ад 16 да 64 кілаграмаў за гадзіну.

Драўляныя млыны будаваліся, як правіла, з дрэва. Частка будынка размяшчалася на палях пад вадой, пазней пад яго сталі падвадзіць каменны фундамент. Сустракаюцца каменныя пабудовы, дзе прафесійна выкананая бутавая кладка спалучалася з цаглянай. Працоўнае памяшканне млыноў было двухпавярховым. Наверсе знаходзіўся латак для засыпкі зерня. Унізе – скрыня для мукі, ступы з таўкачамі для драблення зерня на крупу. Побач з скрыняй ляжалі драўляныя саўкі для засыпкі мукі. На сценах віселі розныя вяроўкі і шнуркі для завязвання мяшкоў з мукой, пучкі траў. Напор вады можна было рэгуляваць на плаціне спецыяльнай засланкай.

У часы Вялікага княства Літоўскага млынар абавязваўся даваць на карысць дзяржаўцы 2/3 з усяго змолатага, пакідаючы для сябе толькі 1/3. Млынаром мог быць толькі чалавек, які ўмеў дагледзець млын. Ягонымі абавязкамі было выпраўляць у выпадку неабходнасці млын, трымаць у парадку ўсе гаці і заставы, млынар набываў за свой кошт трэцюю частку жалеза ўсёй той колькасці, якая патрабавалася для млына. За гэта ўсе падданыя каралеўскія пэўнага раёна павінны былі малоць зерне толькі ў млыне свайго раёна. У выпадку моцнага напору вады сяляне суседніх сёлаў па дадзеным ад млынара знаку павінны былі з кожнага дыма спяшацца на працу, як гэта рабілася ў выпадку небяспекі пажару.

Дзякуючы выдатнаму беларускаму фалькларысту А.К. Сержпутоўскаму і яго кнізе «Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў», мы можам увідзець загадкавы вобраз млынара.

Так апісваў свае ўражанні ад наведвання млына селянін з вёскі Чудзін Лявон Лябедзік у пачатку XX стагоддзя: «Мельнік заўжды знахор. Каб ён не знаўся з нячыстаю сілаю, та б не быў мельнікам, бо сам чалавек не можа ўправіцца з млыном. Мы з кумам вазілі ў Лактышы валіць сукно. Паводка той рок была вялікая. Падходзім да млына, а ён увесь дрыжыць, баццэ яго трасе трасца. Вада раве, аж глушыць. Крыгі трашчаць, ломяць застаўкі, а грэбля ўся ў вадзе. Млын сярод вады бы паля. Толькі хістаецца. Баімосо мы падступіцца, а мельнік хоць бы што. Не, мабыць мельніку сам ліхі дапамагае». Адсюль і вялікая колькасць павер'яў і забабонаў аб млынарах і млынах.

Уладзімір Мікалаевіч Грыгор'еў узгадаў, што ў вёсцы Крупіца Мінскага раёна на рацэ Пціч да 50-х гадоў XX стагоддзя працаваў вадзяны млын. Вось невялічкая гісторыя:

«Памятаю першую пасляваенную вясну. Холад і голад – пастаянныя пачуцці, якія адчуваў я, на той час 8-гадовы хлопчык. Вельмі хацелася есці. Я апранаў адныя на ўсю шматдзетную сям'ю гумовыя боты, якія жартам называлі "Дзякуй Сталіну-грузіну, што абуў нас у рэзіну", і ўпотай ішоў на саўгаснае поле. Ногі праваліваліся па калена ў гразь, дзе, дрыжучы ад холаду, я шукаў мінулагоднюю мерзлую бульбу. Прыносіў дадому і маці пякла з яе саладкаватыя на смак чорныя бліны – "шаймоты". Тады гэтая страва здавалася такой смачнай. Хацелася хоць крыху хлеба. Мы ўсёй сям'ёй збіралі каласкі, абменьвалі ў сялянкалгаснікаў зерне. Сабралі паўмеха. Ад голаду і слабасці мяне хістала ў бакі. Але я, як самы старэйшы з мужчын (бацька служыў у арміі), пайшоў на млын малоць зерне. Млын быў стары, стаяў над вадой на вялізных дубовых палях, якія зараслі зялёнай цінай. Дрэва ў вадзе не псуецца, а становіцца цвёрдым, як сталь. Млын быў драўляным, па вышыні з двухпавярховы дом. Там, дзе стаяў млын, рака была дастаткова шырокай, каля 50 метраў. Перад мастом была зроблена спецыяльная, з дубовых паляў, змацаваных паміж сабою брусамі, дугападобная абарона ад крыгаходу. Праз раку перакінуты драўляны мост, пад ім плаціна з дзёрану і гліны, змацаваная драўлянымі палямі. Стаяў вадамер. У плаціне меліся спецыяльныя засланкі, якія рэгулявалі напор вады. Гаць паднята ўзровень вады ў рацэ і ўтварыла даволі вялікае азярцо-"люстэрка". Напору вады хапала, каб прывесці ў рух некалькі колаў. Каля млына было шумна, сяляне-калгаснікі на вазах прывозілі зерне на памол. Я заняў чаргу і пачаў чакаць, з зацікаўленасцю разглядваў механізм млына. Мяхі з зернем узважваліся і складваліся ў стос. На другім паверсе адчынялася вакно, спускаўся ланцуг з пятлёю на канцы. Пятля накідвалася на мех і з дапамогай спецыяльнай лябёдкі падымалася на другі паверх млына. Малоць зерне прыязджалі ўдвох. Адзін селянін наверсе пасля каманды млынара "Засыпай!" сыпаў зерне ў латак. Зерне трапляла ў адтуліну ў жорнах і размолвалася. Унізе неабходна было падстаўляць мяхі пад цурок мукі. Пасля каманды "Адгортвай!" неабходна было прыбраць мех і закрыць засланкай адтуліну. Усё. Далей засыпалася мука іншага селяніна. Тут не пазяхай. Жорны не павінны былі працаваць ухаластую. У млыне былі два жорны. Адзін – для грубага памолу, другі – для мелкага. Мука грубага памолу не была прыдатнай для прыгатавання бліноў. Таму яе малолі (пытлявалі) яшчэ адзін раз. Мяхі ўзважваліся на спецыяльных вагах. Частку мукі млынар браў у якасці платы за працу. Аднойчы вясною прарвала плаціну і знесла мост. Млын яшчэ некаторы час стаяў закінутым. Сяляне з суседніх вёсак расцягвалі паціху будаўнічы матэрыял, пакуль і следу не засталося. Цяпер, бывала, прыйду на тое месца і ўзгадаю млын, галодныя пасляваенныя дзяцінства…»

Чалавечая абыякавасць, ваенныя ліхалецце, час і прагрэс знішчылі вадзяныя млыны. Цяпер рэшткі плацін і старыя палі, якія тырчаць з вады, нагадваюць нам аб існаванні на нашай зямлі гэтых старажытных збудаванняў. І калі ветраных млыноў на тэрыторыі Беларусі захавалася 10–12, то вадзяных практычна не засталося. І мы, сучаснікі, ужо ніколі не пачуем шуму вады, што падае на вадзяное кола. Не возьмем у рукі цёплую, свежазмолатую муку, не ўдыхнем яе пах. Навошта, запярэчыце вы? Адкажу. Каб не прыпынялася повязь эпох. Калі з мазаікі вышада хоць адзін элемент, то карціна будзе недастатковай. З кожнай стратай наша культура і традыцыя становяцца крыху бяднейшымі. Не дарэмна ў Расіі аднаўляюць вадзяныя млыны ў гістарычных мясцінах. У гэтых адносінах неабходна браць прыклад з заходніх краін, дзе старая тэхніка зберагаецца, яна складае прадмет нацыянальнага гонару. На любові да гісторыі выхоўваецца маладое пакаленне. А гэта ж і ёсць самае галоўнае.



*На Палессі кажуць, што колькасць ветракоў азначае заможнасць ваколіцы, але для мяне галоўным з'яўляецца тое, што ветракі ажыўляюць наваколле*

*Францішак Віслаўх*

*Сяргей ЛІХТАРОВІЧ*





# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



## Браніслаў Эпімах-Шыпіла – неардынарная асоба ў жыцці Янкі Купалы і ў гісторыі развіцця беларускай культуры

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 13–14)*

Ўзыходжанне Янкі Купалы адбывалася таксама з дапамогай Б.І. Эпімаха-Шыпілы. А пачыналіся ўзаемадачыненні надзвычай цікава. У 1907 годзе мала каму яшчэ вядомы паэт, але малады і няўрымслівы, напіша эпіграму «На беларускую выдаўніцкую суполку “Загляне сонцэ і ў наша ваконцэ», стаміўшыся чакаць дзейнасці выдавецтва:

*... Як да кожнай работы,*
*Не надта спяшыць мы ахвочы;*
*Знаць, пакуль гэта*
*«сонцэ» гляне ў наша аконцэ,*
*Начная раса выесць вочы.*

Сапраўды, справа пачыналася вельмі марудна: да 1907 года выдадзена было ўсяго толькі некалькі брашурак лемантароў, але работа паступова наладжвалася, а эпіграма згубілася і знайшлася толькі ў 1929 годзе.

Аднак пазней, калі Янка Купала знаёміцца праз Уладзіміра Самойлу з беларускім нацыянальным рухам, пачынае ў яго з'яўляцца вера ў лепшую будучыню Беларусі і ён піша верш-віншаванне, у якім выказвае шчырую ўдзячнасць дзеячам суполкі і пажаданне, каб 8 мільёнаў беларусаў сталі яе шчырымі сябрамі:

*Гэй, дзівы над дзівы,*
*мне гоман грамлівы,*
*Глядзіце, ўстае беларускі народ;*
*Айчызну будуе на борах, на нівах,*
*Што гэта? – то йдзэ,*
*то праўды прыход.*

Прывітанне знайшло водгук у кіраўнікоў суполкі, а Эпімах-Шыпіла праз гэты твор угадаў надзвычайны талент аўтара і папрасіў Самойлу даслаць яшчэ вершы Янкі Купалы, што той і зрабіў. Так пачалося стварэнне «Жалейкі». Эпімах-Шыпіла паставіўся вельмі сур'ёзна да выдання гэтага зборніка, стаў фактычна першым рэдактарам маладога паэта і адабраў такія вершы, якія найбольш ярка паказалі яго творчае аблічча.

У пачатак зборніка пастаўлены быў цяпер праграмны верш аўтара «Я не паэта», далей ішлі вершы з яркай сацыяльнай накіраванасцю, як «А хто там ідзе?», «Касцу», «Гэта крык, што жыве Беларусь» і іншыя. Рэдактар зборніка знайшоў магчымасць прадставіць Янку Купалу як перакладчыка, уключыўшы ў зборнік перакладныя творы Лермантава, Канапніцкай, Шаўчэнкі, Някрасава.

І тут нельга не сказаць пра тое, што ідэалы і імкненні паэта супалі з думкамі і настроямі рэдактара, што таксама дадало вагі зборніку «Жалейка».



*Я. Купала ў 1908 г.*

І яшчэ адно. Вядома, што спачатку свае творы паэт падпісваў імем Янук Купала. Эпімах-Шыпіла перайменаваў паэта ў Янку Купалу, як сведчыць сам рэдактар, памылкова. Але гэта «знамянальная» памылка. Янук Купала назаўсёды застанецца Янкам Купалам.

Аўтар «Жалейкі» зусім не падобны быў да пачынаючага паэта, а адразу прадстаў сапраўдным мастаком слова, уладаром надзвычайнага таленту. Можа таму літаральна з першага зборніка Янка Купала набывае еўрапейскую вядомасць: палемічнае стаўленне да творчасці Купалы было ў польскіх літаратуразнаўцаў, але польскі кампазітар Людамір Рагоўскі піша музыку да верша-гімна «А хто там ідзе?» Перакладае творы Купалы рускі пісьменнік Горкі і ўкраінец Скаварада, глыбока даследуе творы першага зборніка Купалы чэх Адольф Чэрны – паэт і прафесар, а нямецкі прафесар Абіхт так зацікавіўся творчасцю Купалы, што ў свае 66 гадоў вывучыў беларускую мову ў такой ступені, што нават выкладаў пазней у Свіслацкай прагімназіі. Але найбольш трапна зборнік Янкі Купалы «Жалейка» ацаніў Ул. Самойла, які напісаў у газеце «Мінскі Кур'ер» наступнае: «Сонца жывой сапраўднай паэзіі заглянула ў аконца цёмнай, беднай, але вялікай хаты беларускага народа...» На з'яўленне «Жалейкі» адгукнулася рэцэнзіяй «Наша Ніва» ў 1908 годзе, а Антон Луцкевіч Янку Купалу назаве «прарокам беларускага адраджэння».

Трэба зазначыць, што дыялог, апісаны Эпімахам-Шыпілам Клейнбарту, паўплываў на ход думак і планаў Янкі Купалы. Прагнучы адукацыі, у снежні 1909 года Янка Купала, выкарыстаўшы прапановы прафесара Эпімаха-Шыпілы, едзе ў Пецярбург вучыцца і спыняецца жыць больш як на тры гады ў кватэры Браніслава Ігнатавіча.

З самага пачатку жыцця Купалы ў Пецярбургу паміж маладым паэтам і прафесарам склаліся сяброўскія адносіны, узаемаразуменне і ўзаемападтрымка. Аб гэтым сведчыць верш-прысвячэнне «Прафесару Б. Эпімаху-Шыпілу з новым 1910 годам».

У гэтым годзе прафесар Эпімах-Шыпіла вельмі хваравіта перажываў асабістую трагедыю. Вучоны ў сваім фальварку Залессе (Полаччына) пабудаваў дамок, у якім марыў стварыць беларускі музей, для якога ім было сабрана нямала экспанатаў па краязнаўстве і гісторыі Беларусі. Аднак дом гэты вясной 1910 года згарэў. Прафесара не столькі засмучалі матэрыяльныя страты і страта надзеі на спакойную старасць, як страшная сімволіка падзеі – згарэў першы адбудаваны беларускі музей. Пасля Эпімах-Шыпіла ўспамінаў: «Гэта мяне так засмуціла і прывяло ў роспач, што я не мог ні есці, ні спаць і ледзь было не захварэў...»

Менавіта ў гэты цяжкі момант Янка Купала быў надзейнай духоўнай падтрымкай вялікаму вучонаму, калі той на нейкае імгненне страціў арыенціры ў жыцці, мэтанакіраванасць і сэнс працы. У вершы-прысвячэнні «Прафесару Б. Эпімаху-Шыпілу» Я. Купала не імкнуўся суцяшаць вучонага, а заклікаў да цярплівасці.

Пра гэты верш прафесар потым напіша: «...Толькі Янка Купала вершам сваім, у якім ён выліў сваё спачуванне мне і стараўся суцешыць у маім горы, дасягнуў таго, што я супакоіўся і прыйшоў да сябе. Верш гэты... быццам жыватворны бальзам вылечыў пачынаўшую балець смутную душу».

Ёсць і яшчэ адно Купалаўскае прысвячэнне Эпімаху-Шыпілу 1910 года – гэта легенда «Паляўнічы і пара галубкоў».

Жыццё Янкі Купалы ў Пецярбургу паўплывала на творчасць паэта, узняло яе на больш высокі ўзровень. І гэта не дзіўна. Па-першае, вучоба; па-другое, знаходжанне ў кватэры такога адукаванага чалавека, як Эпімах-Шыпіла, дзе была вялікая бібліятэка, якая давала магчымасць паэту падрыхтаваць сябе для ўспрыняцця гісторыі, культуры, фальклору, літаратуры не толькі беларускага, але і іншых народаў; па-трэцяе, Янка Купала, жывучы ў кватэры Эпімаха-Шыпілы, апынуўся ў асяродку навуковай інтэлігенцыі, студэнтаў-беларусаў.

Пра гэты перыяд паэт пазней пісаў: «Я прачытаў амаль усе этнаграфічныя зборнікі, захапляўся народнай міфалогіяй, і што траплялася пад рукі, напісанае аб гэтым, усё чытаў». У Пецярбургу нараджаецца такі Купалаўскі шэдэўр, як паэма «Курган», напісаная ў фальклорным стылі, выходзяць дзве кнігі – драматычная паэма «Адвечная песня» (якая была напісана яшчэ ў 1908 годзе) і зборнік вершаў «Гусляр», пра які захаваліся звесткі, што і гэты зборнік рэдагаваў і рыхтаваў да друку Эпімах-Шыпіла, а імя А. Грыневіча як выдаўца было пастаўлена толькі таму, што Эпімах-Шыпіла баяўся чарговых нападкаў і судовых спраў, заведзеных на выдавецкую суполку «Загляне сонцэ і ў наша ваконцэ».

Зборнік «Гусляр» меўся выйсці годам раней, аднак гэтаму перашкодзілі, відавочна, судовыя працэсы над суполкай за зборнік «Жалейка».

У час выдання «Гусляра» ў краіне панавала рэакцыя. Гэтая акалічнасць была прычынай таго, што чарговы зборнік атрымаўся зборнікам няпоўных аўтарскіх магчымасцей: абставіны часу не дазволілі прадставіць паэта ўсебакова, поўна і шырока тэматычна.

Зразумела, калі б Купала не меў таленту, з яго Эпімах-Шыпіла не зрабіў бы таленавітага паэта, але нельга не лічыцца і з тым, «колькі талентаў звялося» на нашай зямлі толькі таму, што ў неабходны момант ім не было належнай падтрымкі. Разумеў гэта і Янка Купала.

Акрамя ўсяго іншага, Эпімах-Шыпіла аказваў Янку Купалу вялікую матэрыяльную падтрымку, даючы магчымасць пісаць. Па ўспамінах сучасніка Язэпа Сушынскага, Браніслаў Ігнатавіч «аддаў у яго (Я. Купалы. – **Рэд.**) распараджэнне пакой, забяспечыў на правах члена сям'і поўным харчаваннем і ўносіў плату за абучэнне на Чарняеўскіх курсах, нават ахвяроўваў належную суму грошай на так званыя кішанковыя выдаткі: кіно, тэатр, фурманкі, конкі, параходы».

*Алена БУРБОЎСКАЯ,*
*намеснік дырэктара*
*па навуковай працы*
*Дзяржаўнага літаратурнага*
*музея Янкі Купалы*

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–14)*

Яшчэ пра сакавік 1908-га. На той час выключная для лёсу беларускага народа газета «Наша Ніва» з радасцю паведамляе-усклікае: пабачыў свет першы зборнік паэта! Яго, Янкі Купалы. За 11 сакавіка 1908 года ў выданні для ўсіх чытачоў паведамляецца, што можна набыць першы зборнік паэзіі Я. Купалы «Жалейка», і гэта жадаючаму пакупніку будзе каштаваць 50 капеек. У «Жалейку» не патрапілі ўсе падрыхтаваныя ім вершы, як і не ўсе з іх пабачылі свет у той жа «Нашай Ніве». Скажам, такая цяпер вядомая яго паэзія за 1908 год, як «Роднае слова» і «Думка», стала вядомая толькі ў 1928-м, а «Перад вісельняй», «Дэпутату NN», «З надзеяй гаротнай» ці «Замчышча» – толькі ў 1932-м, дзякуючы, што яе адшукалі ў сваіх архівах ягоныя сябры. Найперш Б. Эпімах-Шыпіла.

У 1908-м Я. Купала ўзмацняе свой тон размовы з усім беларускім людам:

*Хто ты гэткі?*
*– Свой, тутэйшы.*
*Чаго хочаш?*
*– Долі лепшай.*
*Якой долі?*
*– Хлеба, солі.*
*А што болей?*
*– Зямлі, волі.*

Як можна на гэтым вершы «Хто ты гэткі» ярка пераканацца, паэт паступова ішоў да ўсё больш глабальнага асэнсавання гістарычнага лёсу, рэчаіснасці і будучыні беларускага народа, што неўзабаве глыбока мысліцельна і паэтычна выкажа ў вершы-гімне «А хто там ідзе?» У вершы «За праўду» закліча:

*За праўду, за шчасце, за лепшую долю*
*Вазьміся, мой дружа, пастой!*
*У крыўду не дайся, свайго дабівайся.*
*Адвага хай будзе з табой.*

*(Працяг будзе)*

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–14)*

Пра побыт зняволеных і норавы ў тагачасным Мінскім астрогу, апроч параскіданых у розных творах успамінаў Я. Коласа, ёсць яшчэ і запіскі нашага земляка А. Бонч-Асмалоўскага (1857–1930) – рэвалюцыянера-народніка, дзеяча вядомых суполак «Зямля і воля» і «Чорны перадзел», які з 1879-га неаднаразова арыштоўваўся, браў удзел у рэвалюцыі 1905–1907 гг., а ў 1908-м адбываў пакаранне разам з Я. Коласам у Мінскай турме, пазней стаў прататыпам «народавольца» ў трылогіі «На ростанях». Яго ўспаміны «Эпоха 1905 г.» друкаваліся ў 1925-м у некалькіх нумарах часопіса «Полымя», у даследаванні Г. Кісялёва змешчаны ўрывак з іх. «Трымалі нас у Мінскай турме, – у прыватнасці, пісаў ён. – Умовы былі вельмі дрэннымі: па-першае, турма была перапоўненая – удвая больш нормы; усіх сядзела ў турме каля 600–700 чалавек; па-другое, яду перадаваць дазвалялі вельмі рэдка, траціць свае грошы таксама не дазвалялі; уся турма загэтым галадала; і толькі тады, калі чалавек у 60 з'явіліся азнакі цынгі, начальства апомнілася і крыху палепшыла становішча. Палітычных вязняў як асобую катэгорыю спачатку не прызнавалі, ніякімі палёгкамі мы не карысталіся і знаходзіліся ў агульных камерах з крымінальнікамі. Камеры былі так перапоўнены, што прыходзілася спаць на адным баку, а легчы на спіну не было ніякай магчымасці; нечыстата была таксама вялікая: вошы, клапы і блохі не давалі спакою. Праз некаторы час нас, палітычных, пачалі выдзяляць у асобныя камеры. Нягледзячы на тое, што мае сваякі, якія засталіся на волі, мелі значныя сродкі (яго бацькі мелі маёнтак у в. Блонь Ігуменскага павета Мінскай губерні. – **Рэд.**), рэжым у турме быў такі вялікі ў сэнсе харчавання, што ў мяне пачалі ўжо калыхацца зубы і з'явіліся ўсе прыкметы цынгі... Начальнік турмы Славінскі быў сапраўдным зверам; асабліва ён прыгнятаў палітычных».

*(Працяг будзе)*

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*





*Школьнае краязнаўства*

# Досвед адной вандроўкі да былой вёскі

***Маршрут чарговай экспедыцыі сябры археолага-краязнаўчага гуртка «Арганаўты мінулага» вызначылі яшчэ летась пасля заканчэння экспедыцыі ў Субачава, Цвеціна і Бор-Паляну. Нас зацікавілі наваколлі Стэфанполля. Ужо даўно няма гэтай вёскі, а яшчэ ў пачатку XX стагоддзя была воласць пад такой назвай, хоць само валасное праўленне размяшчалася ў колішняй карчме барона фон Беттынгера пад назвай «Амелькава». Наша задача была знайсці і лакалізаваць гэтае месца. Па беразе ракі Дзісны выдатныя мясціны для паселішчаў старажытнага чалавека, а помнікаў археалогіі чамусьці не адкрыта. Цягам года вывучаўся маршрут вандроўкі па старых картах і дакументах, якія ёсць у нашым музеі; вялікую дапамогу аказалі артыкулы выдатнага краязнаўцы і рабселькора з Дзісны Фадзея Лаўрэнцьевіча Шымуковіча. Вельмі карысным было грунтоўнае вывучэнне даведніка Гукоўскага 1904 года, польскіх календароў і даведнікаў 20–30 гадоў XX стагоддзя.***

## На месцы сядзібы Гарунеўскіх

Наступіў вызначаны дзень і, нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е, рэйсавым аўтобусам Мёры–Сіцькова а 5 гадзіне раніцы гурткоўцы накіраваліся ў пошук – да новых таямніц і адкрыццяў.

На канцавым прыпынку нас гасцінна сустрэла настаўніца гісторыі Раіса Аляксандраўна Шымуковіч. Адразу яна прапанавала правесці для нас экскурсію па вёсцы. Цікава было «арганаўтам» слухаць пра гісторыю гэтага паселішча, асабліва пра паноў Гарунеўскіх – былых уладальнікаў сядзібы. З дакументаў мы ведалі, што Станіслаў Гарунеўскі апрача Сіцькова меў яшчэ і Гулькі, якія падзяліў з сваёй сястрой Вінцэнтай. Яна валодала яшчэ і Чарналессем. Аб былой сядзібе цяпер нагадваюць толькі ацалелыя некалькі ліпаў. Раіса Аляксандраўна паказала месца, дзе праходзіла старая дарога на Дзісну, па якой у 1812-м рухаліся французскія войскі. Гурткоўцы пачалі распытваць пра цікавыя пагоркі або курганы ў ваколіцах Сіцькова. Настаўніца патлумачыла: усе навакольныя мясціны зведалі меліярацыю. А што здабытак для сельскай гаспадаркі, тое для археолагаў – страта. Але ўсе краязнаўцы ўзрадаваліся, калі ад настаўніцы пачулі паданне, якое апавядаў калісьці яе бацька. Нібыта вясковыя могілкі размешчаны на кургане, што быў насыпаны мясцовымі жыхарамі з нейкай нагоды.



Камень з загадкавымі знакамі

## Поле, былое Стэфанполле

Нават для археолага-аматара падобная ўзгадка не можа не зацікавіць. Таму гурткоўцы, не зважаючы на дождж, шпарка накіраваліся на могілкі. Візуальнае даследаванне (не капаць жа могілкі), праведзенае краязнаўцамі, дазволіла ўпэўнена выказаць гіпотэзу: пагорак, на якім размешчаны могілкі, з'яўляецца гарадзішчам жалезнага веку. Аб гэтым пераканаўча сведчаць: *а)* наяўнасць культурнага пласту, чорнай зямлі; *б)* выразна прасочваецца наяўнасць вала, пляцоўкі; *в)* размешчана побач з цяпер штучным вадаёмам, а дзве тысячы гадоў таму тут было возера. Гарадзішча мае тыповыя абрысы, характэрныя для позняга этапу жалезнага веку (II–V стагоддзі нашай эры). У тыя часы наш край, паводле вызначэння вучоных-археолагаў, насялялі плямёны днепра-дзвінскай культуры.

Далей наш шлях ляжаў на месца былой вёскі Стэфанполле. Тут мы вырашылі размясціцца лагерам для правядзення далейшых пошукаў. На дапамогу прыйшоў муж Раісы Аляксандраўны – Іван Сяргеевіч. Вялікі яму дзякуй і за тое, што на ўласнай машыне даставіў нас на месца, чым збярог сілы для больш змястоўных пошукаў. Іван Сяргеевіч аказаўся цікавым суразмоўцам. Ураджэнец гэтых мясцінаў, ён выдатна ведае тутэйшыя гісторыі, і ў дарозе нагадваў «арганаўтам», на што трэба звярнуць увагу.

Паставіўшы намёты, распаліўшы вогнішча, каб было дзе прыгатаваць абед і прасушыць адзенне, нягледзячы на несупынны дождж, краязнаўцы прыступілі да выканання пастаўленых задачаў. Вядома, праведзеная тут меліярацыя значна зменшыла магчымасць нашых знаходак і адкрыццяў. Але нездарма дэвіз нашага гуртка: «Шукаць і знаходзіць!» Найперш пачалі з толькі што абаранага поля. Цяжка было хадзіць па калдобінах; гліна наліпала на боты і, здавалася, прыклейвала да глебы, змушаючы кожны крок рабіць з велізарным напружаннем. Толькі той, хто не шукаў, можа зайздросціць, як лёгка мы здзяйсняем адкрыцці і знаходзім новыя экспанаты і помнікі. Спатрэбілася некалькі гадзінаў пошукаў, каб пачалі трапляцца знаходкі, якія дапамаглі лакалізаваць месца былых вёскі і хутароў Стэфанполле.

Там, дзе цяпер калгаснае поле, на якім дзесяткі гадоў працуе разнастайная тэхніка, у 30-я гады XX стагоддзя вiравала жыццё. У вёсцы Стэфанполле ў 1930 годзе было 26 жыхароў, якія валодалі 23 дзесяцінамі зямлі, а на стэфанпольскіх хутарах, заселеных асаднікамі (былымі ўдзельнікамі вайны 1920 года), жыло 297 чалавек на 2 503 дзесяцінах зямлі. Нягледзячы на меліярацыю, калгаснае поле падаравала нам шматлікія знаходкі, якія сведчылі, што паселішчы існавалі тут не менш як 500 гадоў таму, не пазней XVI стагоддзя. Аб іх нідзе не згадваецца ў тагачасных дакументах, але кавалкі звычайнага глінянага посуду пераканаўча аб гэтым сцвярджаюць. Асабліва шмат было знойдзена прадметаў матэрыяльнай культуры XIX – першай паловы XX стагоддзяў. Былі прадметы кавальства (асабліва здзівіла вялізная падкова, якіх сёння не ўбачыш), пярсцёнак і шмат іншых рэчаў.

## Курган

Выклікалі ўвагу і больш чым стогадовыя ліпы і дуб, якія раслі на ўскрайку поля. Там павінна штонебудзь знаходзіцца! Сапраўды, нас чакаў курган, які звычайна насыпалі ў X–XIII стагоддзях па сваіх памерлых нашы продкі-язычнікі. Памеры яго класічныя для таго часу: 1 метр у вышыню, выцягнуты з захаду на ўсход на 8 метраў, па аснаванні выкладзены камянямі. Тыповае пахаванне балтаў. Толькі потым нас чакала расчараванне: мясцовыя старажыхары сцвярджалі, што гэты капец насыпаны на былой мяжы паміж вёскамі. Праўда ці не, могуць пацвердзіць толькі раскопкі. Цікавая знаходка нас чакала і побач. Тут гурткоўцы адшукалі камень з цікавымі кружочкамі: магчыма, ён служыў нашым продкам для якіх-небудзь рытуальных мэтаў. Кружочкі на камені нагадваюць сузор'і.

## Памятка 1812 года

З архіўных крыніцаў мы ведалі, што 12 ліпеня 1812 года па дарозе з Шаркаўшчыны на Дзісну Елісаветградскі полк пад камандаваннем Леантовіча разбіў падчас начнога бою французскі атрад і захапіў у палон 75 салдат. 15 ліпеня рота 6 пяхотнага палка генерала Палена корпуса Дахтурава вяла перастрэлку паблізу вёскі Стэфанполле.

Праводзячы агляд мясцовасці, мы звярнулі ўвагу на роў. Напэўна, старое рэчышча, якое перасякала старую дарогу на Шаркаўшчыну. Зручнейшае месца ў наваколлі Стэфанполля для засады цяжка было б адшукаць. Уважлівы пошук і знаходкі рэшткаў зброі 1812 года пацвярджаюць нашу гіпотэзу, што тут адбыўся бой з французамі.



Месца бою з французамі

## Была царква...

Дождж зацягнуўся і перашкаджаў актыўным даследаванням, таму вырашылі наведаць вёску Акунёва, каб сустрэцца са старымі жыхарамі ды распытаць аб мінулым. І вось тут нас чакала вялікая няўдача. Упершыню за 30 гадоў краязнаўчых вандровак замест добразычлівасці мы сустрэлі агрэсіўнасць і злосць. Праходзячы па вёсцы і пытаючыся пра старых жыхароў, якія маглі б расказаць аб мінулым гэтых мясцінаў, сустрэлі п'яную кабету, якая, не слухаючы нашы тлумачэнні, кінулася з пагрозай расправіцца з краязнаўцамі як з нейкімі бандытамі, выклікаць міліцыю, пабудзіць п'янага мужа, каб той засек сякерай. Не ўступаць жа ў бойку з п'яніцай, адурманены розум якой не ў стане што-небудзь асэнсаваць. Таму вырашылі наведаць гэтую вёску іншым разам.

Змрочнае ўражанне зрабіла на нас відовішча былой Свята-Пакроўскай царквы. Мы ведалі, што гэты помнік архітэктуры драўлянага дойлідства першай паловы XIX стагоддзя разбураецца, але ўявіць такога мы не маглі.



Колішні выгляд Пакроўскай царквы

А гісторыя яе надзвычай цікавая. У першай палове XIX стагоддзя знаходзілася на уніяцкіх могілках у Дзісне і называлася Георгіеўскай. У часы Першай сусветнай вайны часткова разбурана і не дзейнічала. У 20-я гады XX стагоддзя ў Стэфанпольскім праваслаўным прыходзе было амаль 3 000 вернікаў, і малітоўны дом, які існаваў у той час у Стэфанполлі, не змог і блізка змясціць прыхаджанаў. Таму малады святар Нічыпар Майсяёнак (дзед знакамітага прафесара і краязнаўцы з Гродна Андрэя Майсяёнка) атрымаў дазвол на будаўніцтва і перавоз храма з Дзісны. Праект перабудовы выкананы дзісенцам Васілём Кошалем, прарабам быў будаўнік Леўша з Друі, якому дапамагалі мясцовыя майстры Мікола Мішута і Майсей Гмыза, мясцовы войт і царкоўны стараста Павел Мішута, каваль Пучкоўскі. Менш чым за паўгода храм у Стэфанполле быў перавезены і адбудаваны. 14 кастрычніка 1931 года на свята Пакрова царква была асвечана і таму атрымала назву Пакроўскай. Пазней прыходскім святаром быў прызначаны Мікола Лапіцкі, выпускнік Віленскай духоўнай семінарыі і багаслоўскага факультэта Варшаўскага універсітэта.

З такой адукацыяй было не так і многа праваслаўных святароў, а накіравалі Лапіцкага на ўскраіну Віленшчыны за дзейнасць па беларусізацыі праваслаўнай царквы. Падчас вайны за гэта яго ледзь не расстралялі немцы, потым – партызаны. Пасля вайны на Захадзе ён узначальваў Беларускую праваслаўную царкву для бежанцаў. Пазней эміграваў у ЗША, дзе быў прызначаны епіскапам Беларускай праваслаўнай царквы для беларусаў Паўночнай Амерыкі. З'яўляўся заснавальнікам прыходу Святой Ефрасінні ў Саўт-Рыверы. Актыўна ўдзельнічаў у беларускім жыцці, выдаваў часопіс «Беларускі светач», пісаў артыкулы ў «Беларускую думку» і «Беларускае слова». Памёр у ЗША 6 жніўня 1976 года.

У тыя часы храм – прамавугольная ў плане пабудова з дзвюма вежамі: вышэйшая двухярусная з чацверыковым барабанам, меншая размешчана на пяціграннай апсідзе. Фасады расчлянёныя вертыкальнымі сцяжкамі і высокімі прамавугольнымі вокнамі з ліштвамі. Унутраная прастора падзелена іканастасам на алтар і залу. На жаль, цяпер мы гэтага не ўбачым. Праваленая страха, адарваныя дошкі шалёўкі, разламаная алтарная частка, раскурочаны бабінец... Царква, якая маляўніча глядзелася на пагорку, схавалася ў гушчары дрэваў і хмызняку. Былі спробы яе ратаваць: перавезці пад Мінск у Музей беларускай архітэктуры і побыту, мажліва было перавезці ў Мёры, і райцэнтр атрымаў бы цікавы помнік архітэктуры, якога так не хапае ў нашым горадзе. Але гэтым намерам не наканавана было здзейсніцца. Хоць, здаецца, сам Гасподзь ратаваў яе для людзей. Аднойчы, калі вакол гарэла іржышча, агонь дайшоў да агароджы царквы і нечакана спыніўся, хоць і там было шмат сухой травы і хмызняку.

Ведаючы, што ў бліжэйшы час тут усё будзе знішчана, «арганаўты» сур'ёзна паставіліся да вывучэння рэшткаў храма. Былі праведзены шматлікія вымярэнні, замалёўкі, зроблены шматлікія фатаграфаванні, што дазволіць нашчадкам уявіць, які выдатны помнік архітэктуры быў страчаны.

***Вітаўт ЕРМАЛЁНАК,***
***настаўнік Мёрскай СШ № 3,***
***кіраўнік гуртка***
***«Арганаўты мінулага»***

***(Заканчэнне будзе)***







## Рэгіянальны фотафакт

*З вялікай цікавасцю прачытала пра знаходку незвычайнага валуна на Лепельшчыне. І вось чаму. Калі мне ўлетку давялося аглядаць Прылепскае царковішча (матэрыял пра яго быў надрукаваны ў № 33 «КГ» за 2006 год), то ўвагу прыцягнуў незвычайны валун. Ён ляжыць амаль на самай вяршыні гары, іншых побач няма. Ён не такі вялікі, як лепельскі: метра паўтара ў даўжыню, сантыметраў восемдзесят у вышыню (вызначылі на вока, бо абмераць не было чым). На першы погляд — звычайны камень. Але мае... не ямкі, а дзве адтуліны амаль на самым версе. Вось і думаю з таго часу, што б гэта магло быць?*

**Ірына ЗГРУНДО,**
**г. Жодзіна**

# Вяртанне да нашчадкаў

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

У праблемным артыкуле «Вінцэсь Каратынскі: ля вытокаў нацыянальнай лірыкі і эстэтыкі» А. Яскевіч акцэнтуе ўвагу на энцыклапедычных ведах В. Каратынскага, аналізуе распрацаваную ім філасофію фальклору, праблему ўзаемадзеяння народнай творчасці, «вечныя» праблемы быцця і яго блізкасць да народна-песеннай традыцыі, высока ацэньвае лістадозву «Да чэшскіх літаратараў» – праграмны дакумент, у якім В. Каратынскі задоўга да сучасных даследчыкаў выказаў актуальныя, надзённыя і зараз ідэі славянскага адзінства і славістычнага ўзаемадзеяння.

Цікавае паведамленне расійскіх вучоных – супрацоўнікаў Інстытута славяназнаўства РАН Ю. Лабынцава і Л. Шчавінскай «Народная книжность родины Винцеся Коротынского». Даследчыкі класіфікуюць тагачасную літаратуру, якая мела распаўсюджанне на Навагрудчыне, на веравызнавальную, пазаканфесіянальную (самадзейную, свецкую), паралітургічную, аналізуюць змест, канкрэтызуюць жанры, тэмы, тыпы, формы гэтых, у асноўным рукапісных твораў (кантычак), аўтарамі якіх, як правіла, былі мясцовыя жыхары. Інфармацыя расіян дае нам права сцвярджаць, што не такі ўжо замшэлы і адсталы быў мясцовы люд, калі ён, не маючы кнігі на роднай мове, сам ствараў яе, пісаў, і пісаў даволі шмат, улічваючы разнастайныя густы тагачаснага чытача, распаўсюджваў, перапісваў.

Як заўсёды, грунтоўныя, энцыклапедычна выверанaя разважанні Г. Кісялёва. У артыкуле «Праблема беларускамоўнай кніжкі Каратынскага» ён выказвае сваё бачанне гэтага пытання: скрупулёзна аналізуе выданні выбраных твораў В. Каратынскага 1981 і 1994 гадоў, аб'ектыўна адзначаючы выключную ролю У. Мархеля – не проста ўкладальніка вышэйназваных зборнікаў, але ў першую чаргу ўдумлівага і руплівага даследчыка, перакладчыка, знаўцу эпохі, які па-свойму ўяўляе перспектыву новых выданняў В. Каратынскага.

Калі чытаеш працы У. Мархеля, прысвечаныя літаратуры XIX стагоддзя, часам ствараецца ўражанне, што ён сам толькі што адтуль, з пазамінулага стагоддзя, што ён добра знаёмы з героямі сваіх пошукаў – пачынальнікамі-адраджэнцамі і яны для яго блізкія і дарагія – настолькі ўсё зробленае даследчыкам канкрэтна, пунктуальна выверана і абгрунтавана. У. Мархель – адзін з тых сучасных літаратуразнаўцаў, у даследаваннях якога ніколі нідзе не заўважана ніякіх недакладнасцей, памылак, недарэчнасцей стылю. Найбольш поўна ён аналізуе дзейнасць В. Каратынскага ў манаграфіі «Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай», дзе яго творчасць разглядаецца ў кантэксце беларускамоўнай паэзіі XIX стагоддзя і, на думку вучонага, з'яўляецца арганічнай яе часткай. У зборніку змешчаны два артыкулы У. Мархеля – «Беларускамоўная творчасць Вінцэся Каратынскага» і «Санеты Вінцэся Каратынскага і Адама Міцкевіча» (дзе змешчаны аўтарскія пераклады санетаў В. Каратынскага «Гара Міндоўга» і «Руіны замка ў Медніках» на беларускую мову) і два лісты ўнука В. Каратынскага Генрыка Каратынскага, адрасаваныя У. Мархелю. Аўтар у першую чаргу акцэнтуе ўвагу на вершы-элегіі «Туга на чужой старане» як эталоне мастацкім, эмацыянальным, эталоне гарманічнасці, як адной з вяршынь беларускамоўнай паэзіі XIX стагоддзя. Спасылаючыся на ўспаміны сына паэта, праводзячы паралелі з вершам «Уставайма, братцы, да дзела, да дзела», параўноўваючы стыль, даследчык паслядоўна даказвае, што В. Каратынскаму належыць аўтарства ананімных агітацыйных вершаваных твораў. У. Мархель удакладняе дату напісання санета «Гара Міндоўга». Прааналізаваўшы санеты А. Міцкевіча з крымскага цыкла («Гара Кукенеіз» і «Руіны замка ў Балаклаве») з санетамі «Гара Міндоўга» і «Руіны замка ў Медніках», ён сцвярджае, што вершы геніяльнага старэйшага земляка натхнілі В. Каратынскага пасля вяртання на радзіму «да напісання вершаў менавіта ў санетнай форме пра сваю гару і пра свае руіны».

Разважанні У. Мархеля адносна верша «Туга на чужой старане» працягвае і развівае М. Жыгалава («Образ-переживание в стихотворении Винцеся Коротынского "Туга на чужой стороне"»), падкрэслівае актуальнасць гэтага верша для сучаснага чытача, які пакінуў радзіму, таму што любоў да Бацькаўшчыны – гэта не толькі настальгія, але і ахвярнасць, і праца душы, і, нягледзячы на адарванасць, вечнае духоўнае аб'яднанне з ёю.

Сфера навуковых інтарэсаў Я. Гарадніцкага – тэорыя літаратуры, таму ў яго артыкуле «Канцэптасфера творчасці Вінцэся Каратынскага» вызначаецца месца паэта ў сістэме маральна-этычных і эстэтычных каштоўнасцей, праводзіцца глыбокі аналіз сацыяльных, духоўных, фальклорных матываў у яго вершах.

Нават па загалоўках артыкулаў можна прасачыць, наколькі шырокае кола навуковых пошукаў сучасных літаратуразнаўцаў, і ўбачыць прыярытэтныя напрамкі вывучэння творчасці В. Каратынскага праз прызму вывучэння і асэнсавання працэсаў, якія адбываліся ў XIX стагоддзі, калі актыўна фарміравалася нацыянальная літаратура.

Бясспрэчна, чытача зацікавяць артыкулы А. Унучака «Літаратурны працэс другой паловы XIX стагоддзя і вытокі беларускай нацыянальнай ідэі», І. Запрудскага «"Віленскі альбом" і верш В. Каратынскага "Уставайма, братцы..." у ацэнках эміграцкага друку» і «Стратэгія ўзаемадзеяння аўтар – чытач у творчай спадчыне Вінцэся Каратынскага», А. Бразгунова «Беларуская інтэрпрэтацыя паэзіі Вінцэся Каратынскага», Ж. Салдаценкавай «Асаблівасці тыпу творчасці Вінцэся Каратынскага», А. Вальчук «Хрысціянскае светабачанне ў творчасці В. Каратынскага», І. Яцук «Філасофія кахання ў лірыцы В. Каратынскага», В. Несцярук «Ля вытокаў беларускага міцкевічазнаўства», І. Бурдзялёвай «Стылёвая палітра Вінцэся Каратынскага», Ж. Шаладонавай «Матыў сіроцтва ў творчасці В. Каратынскага і Т. Шаўчэнкі», А. Данільчык «Патрыятычныя матывы творчасці В. Каратынскага і італьянскі рамантызм», М. Хмяльніцкага «В. Каратынскі і А. Плуг: жыццёвыя дарогі і творчыя здабыткі», С. Мінскевіча «Адам Міцкевіч і Вінцэсь Каратынскі: ідэйна-эстэтычныя паралелі».

Хацелася б звярнуць увагу на пошукі М. Маліноўскага. Яго артыкул «Адам Кіркор, Уладзіслаў Сыракомля і Вінцэсь Каратынскі аб месцы народзінаў Адама Міцкевіча». Аказваецца, не толькі ў нас, але і ў маладзейшых сучаснікаў А. Міцкевіча было шмат розначытанняў адносна месца яго з'яўлення на свет. М. Маліноўскі цытуе працы В. Каратынскага, якія да гэтага часу не былі ўведзены ў навуковы ўжытак, параўноўвае яго аргументы са сведчаннямі і ўспамінамі іншых і далікатна, але доказна, абапіраючыся на аўтэнтычныя дакументы, даводзіць, што Навагрудак – радзіма А. Міцкевіча, а прэтэнзіі Завосся і Асаўца як на месца нараджэння генія трэба адвесці назаўсёды.

Не новая, але надзвычай актуальная сёння ў сусветных маштабах – тэма міжнацыянальных адносін, таму нельга абыякава аднесціся да артыкула Р. Александровіч «Татарскі свет у творах Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, Вінцэся Каратынскага». Гістарычна склалася так, што Беларусь – шматканфесійная і шматнацыянальная краіна. Колькі стагоддзяў мы жывем побач з яўрэямі, татарамі, літоўцамі, латышамі, украінцамі, і пры гэтай нацыянальнай і канфесійнай цераспалосіцы ўжываемся. І як важна не паддацца на правакацыі і захаваць гэтую талерантнасць.

***Можна толькі пашкадаваць, што зборнік памяці В. Каратынскага выдадзены мізэрным накладам. Але радуе, што ён убачыў свет, а гэта, бясспрэчна, паспрыяе далейшай працы ў вывучэнні творчай спадчыны выдатнага паэта, журналіста, тэарэтыка культуры, дастойнага сына беларускай зямлі.***

***Вольга ДЭКОНСКАЯ***



*Кароткі слоўнік*
## краязнаўча-прававой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



***(Пачатак у № 3 за 2005 г.)***

**ЦЭХІ** (з ням.) – аб'яднанні рамеснікаў адной або некалькіх блізкіх прафесій у феадальных гарадах для манапалізацыі вытворчасці, збыту сваёй прадукцыі і абароны ад самавольства феадалаў. Найбольш былі пашыраныя ў краінах Заходняй Еўропы ў XIII–XV стст. У Беларусі дзейнічалі ў XV–XVIII стст. Унутраны лад цэхаў вызначаўся статутамі, якія рэгламентавалі вытворчасць і збыт рамесных вырабаў, якасць сыравіны і гатовай прадукцыі, час і ўмовы працы майстроў і чаляднікаў, тэхналогію вытворчага працэсу, колькасць вучняў у майстра, час і ўмовы працы і інш. Апрача гэтага, цэхі клапаціліся пра сваіх людзей і іх сем'і. Рамеснікі беларускіх цэхаў у каралеўскіх гарадах знаходзіліся пад юрысдыкцыяй магістрата, у прыватнаўласніцкіх – феадалаў. Спачатку цэхі мелі станоўчае значэнне ў развіцці феадальнага грамадства, спрыялі развіццю тэхнікі і прафесійнага майстэрства. З ростам таварнасці рамяства ўзмацнілася барацьба цэхаў за збыт прадукцыі на мясцовых рынках. Пабольшала эканамічная дыферэнцыяцыя (ад лац. розніца, адрозніванне) рамеснікаў, узмацнілася эксплуатацыя чаляднікаў і вучняў.

**ЦЭХМІСТР** – старшыня аб''-яднання рамеснікаў – цэха. Яго абіралі рамеснікі-майстры на агульным сходзе, кіраваў справамі цэхавай суполкі. Найбольш аўтарытэтныя і заможныя маглі ўваходзіць у склад органа гарадскога самакіравання – магістрата.

**ЦЯГЛЫЯ СЯЛЯНЕ** – феадальна-залежны гурт сялян у ВКЛ, асноўнай формай зямельнай рэнты (даход, які мае ўладальнік без ніякай прадпрымальніцкай дзейнасці) якога была паншчына (адработак). Катэгорыя цяглых сялян узнікла ў XV ст. у сувязі з рэарганізацыяй панскай дваровай гаспадаркі ў фальварак (комплекс будынкаў і розныя засеўкі пэўнага феадала-землеўладальніка) пад уздзеяннем далейшага развіцця таварна-грашовых адносін. У цяглыя сяляне ператвараліся даннікі (плацілі рэнту данінай), калі даніна прадукцыяй сялянскіх гаспадарак у значнай меры замянялася адработачнай рэнтай або грашыма. Да валочнай памеры (рэформа ў выглядзе перамеру і перападзелу зямлі) адзінкай абкладання цяглых сялян павіннасцямі была «служба», пасля – валока (21,36 га). Паводле «Уставы на валокі» 1557 г. за карыстанне валокай зямлі цяглыя сяляне адбывалі 2 дні паншчыны ў тыдзень і павіннасці ў выглядзе натуральных і грашовых плацяжоў, а таксама дадатковай працы. У XVI–XVIII стст. іхнія зямельныя надзелы скарачаліся, павіннасці з валокі зямлі ўзрасталі.



## Залатыя галасы Беларусі



Шмат цудоўных куткоў, краявідаў, вёсак, маленькіх хутаркоў і гарадоў на Беларусі. Галоўнае іх багацце – працавітасць, таленавітасць людзей.

Нядаўна прайшоў адборачны тур Белтэлерадыёкампаніі ў Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобласці. Галоўны рэжысёр Святлана Анатольеўна Слабейка і галоўны сцэнарыст Таццяна Міхайлаўна Сінкевіч тэлепраграмы «Спявай, душа!», што на канале ЛАД, некалькі дзён з захапленнем слухалі, глядзелі і апладзіравалі талентам Жыткаўшчыны. Вельмі шмат прагледжана фальклорных калектываў, народных ансамбляў, хароў, танцавальных ансамбляў, батлеечных праграм.



Старажытны Тураў, а таксама Жыткавічы прадставілі цікавыя выступленні, а вёскі Пагост, Чэрнічы, Чырвоны Бор, Рычоў, Грабава, Пухавічы, Сімурадцы, Старажоўцы, Верасніца, Запясочча, Буразь, Новыя Мілевічы здзіўлялі сваім выканаўчым майстэрствам, ухваляючы ў песнях, танцах, імправізаваных сцэнках, музыцы свой прыгожы край.



Хутка здымкі. Нашыя прадстаўнікі Белтэлерадыёкампаніі задаволены ўбачаным і пачутым. На развітанне цёплы прыём адбыўся ў начальніка раённага аддзела культуры Адама Прохаравіча Купрацэвіча, які шчыра падтрымаў і дапамагаў у адборачным туры талентаў.

*Мікола КОТАЎ, пазаштатны карэспандэнт*

*Фота аўтара*

## З народнага

### Запісана ў в. Ладасна Лепельскага раёна

## Бравы салдат

*Жыла ў адной вёсцы лянівая сям'я. Была ў іх каза. І вось дамовіліся яны так: хто першы загаворыць, той павядзе пасвіць казу.*

*Вось аднойчы зайшоў к ім у хату адзін салдат і папрасіў штонебудзь паесці. Яму нічога не адказалі. Гэты салдат быў не з баязлівых і пайшоў сам глядзець, што ёсць у печы. Знайшоў ён там жараную курыцу і з'еў яе. Потым убачыў прыгожую дзеўку і захацеў з ёй загаварыць, а яна нічога не адказвае. Ён пацалаваў яе, яна маўчыць. Глядзіць ён – на сцяне вісіць хромавая тужурка. Узяў яе салдат – і за дзверы. Тут хазяін не вытрымаў і закрычаў: «Гэй, злодзей, стой! З'еў курку, пацалаваў Нюрку і хочаш украсці маю тужурку!»*

*Прыйшлося хазяіну ўставаць і весці казу ў поле.*

### Запісана ў в. Куляшы Шчучынскага раёна

## Пра хітрага салдата

*Прыйшоў на базар салдат. У торбе ў яго быў толькі кавалак хлеба. А больш салдат нічога не меў, нават граша ломанага. А есці адзін хлеб усухамятку яму не хацелася. Вось ён убачыў селяніна, які прадаваў мёд. Падышоўшы да яго, салдат падае яму кавалак хлеба і кажа: «Намазывай!»*

*Затым запытаў цану, пачуў ад селяніна, па чым мёд, і кажа: «Саскрабай назад! Задорага!»*

*А куды ўжо саскрабаць, калі мёд залез у мякіш! Селянін плюнуў і аддаў салдату кавалак.*

### Запісана ў в. Бортнікі Сенненскага раёна

## Салдат і бабка

*Ішоў салдат. А быў вялікі мароз. Зайшоў ён да адной бабкі пагрэцца.*

*– Ай, які мароз вялікі!*

*– Каб к гэтаму марозу ды яшчэ вецер! – кажа бабка.*

*А бабка ўсё кашляла.*

*– Што, бабка, кашаль?*

*– Кашаль, служывенькі, кашаль.*

*– Каб к гэтаму кашлю ды яшчэ колікі! – кажа салдат.*

*Усё зразумела бабка.*



**Дзе Сафія плыве над Дзвіною...**

*Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*

### Адказы на загадкі, змешчаныя ў № 13

Гусі; карова рабая; кабыла і карова; сарока; воўк, сабака, свіння; баран; певень; курыца, яйка, сабака.



**Сонца ў голлі**

*Фота Насці МЕЛЬНІКАВАЙ*

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ** *(заканчэнне)*. Яны па тыпах падзяляюцца на жанрава-тэматычныя групы. *Апавядальныя* в.п. сцвярджаюць і тлумачаць рытуал, выяўляюць адносіны да яго роду (хору), паведамляюць грамадзе, што вяселле ідзе з захаваннем усіх канонаў. У кампазіцыі яны часта спалучаюць сімвалічную і рэалістычныя часткі, змяшчаюць маналог ці дыялог. *Імператыўныя* в.п. выконваюцца ў форме загаду, наказу, заклiку, парады, просьбы накont пэўных дзеянняў, і напамінаюць пра даўні этыкет. Пры выкананні гэтых песень хор па праве рэжысёра ўказвае ўсім удзельнікам вяселля іхняе месца ў ім. *Заклінальныя* в.п. звернуты да звышнатуральных сіл, да з'яў прыроды, да роду, бацькоў, прадметаў-сімвалаў, каб яны ўсе разам спрыялі шчасліваму шлюбу. *Лірыка-драматычныя* в.п. выяўляюць пачуцці маладых, асабліва нявесты, яе бацькоў і блізкіх. У іх падкрэсліваюцца сум маладой па развітанні з родным домам, з бацькамі, з дзявоцтвам. *Велічальныя* в.п. заклікаюць ушанаваць («падвысіць») маладую альбо маладога, іхніх бацькоў. Тут былі схаваны як праўдзівы падтэкст (напрыклад, маладая прыгожая, а малады непрывабны), так і бяскрыўдная імправізацыя. *Дакаральныя* в.п. маюць на ўвазе абвергнуць велічальныя. *Прыпеўкі да танцаў і ў часе застолля* часта прасякнутыя рознымі жыццёвымі намёкамі, нярэдка маюць эратычны змест, рыхтуючы маладых да таго, што яны павінны хутка жыць натуральным сталым жыццём.

Характар гучання в.п. шмапланавы, аднак даследчыкі вылучаюць тры асноўныя тыпы іх вобразна-эмацыянальнай сферы: рытуальна-урачысты (пахвала маладым, дзяльба караваю, вясельнае застолле), лірычна-драматычны (на заручынах, на ўсіх этапах рытуалу надзявання на галаву маладой вянка і галаўнога ўбору), гарэзліва-жартоўны (песні сватам, дружкам нявесты і жаніха). Музыка таксама вызначаецца разнастайнасцю (ва ўнісон песням, прыпеўкам, пажаданням і інш.). Беларускія в.п. у розных рэгіёнах маюць свае асаблівасці, і часта здараецца, што некаторыя знаўцы мясцовай даўніны падказваюць іх, гэтыя своеасаблівасці, ці наадварот, пасля дакараць гаспадароў, што тыя тое-сёе парушылі. Таму і цяпер гэтых дасведчаных стараюцца добра пачаставаць на вяселлі і нават з сабой нешта даць. На сучасных вяселлях, як у горадзе, так і ў вёсцы, усё часцей і больш гучаць не даўнія народныя песні, а сучасныя маламастацкія шлягеры, грымлівая сучасная музыка, а пад яе «танцуюць» усе – і хто можа, і хто не ўмее.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 234 61 62. E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 19.04.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 440
Тыраж 1420 асобнікаў.